

№ 22 (183)
Чэрвень 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

Бібліятэка – асяродак нацыянальнай культуры

# Унёсак
## у краязнаўчую бібліяграфію

Жлобін лічыцца літаратурнай сталіцай Гомельшчыны. І справа не толькі ў тым, што горад, як і Жлобінскі край, мае багатую літаратурную гісторыю. Зусім не выпадкова і тое, што яшчэ напрыканцы 1997 года Гомельскае абласное аддзяленне пісьменніцкай арганізацыі і Жлобінскі гарвыканкам заснавалі літаратурную прэмію імя Аляксандра Капусціна. Сярод тых, хто ёй адзначаны, – і вядомы пісьменнік Анатоль Бутэвіч.

Свой унёсак у працяг літаратурнай гісторыі краю робяць і жлобінскія бібліятэкары. Раённая цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма, раённая цэнтральная бібліятэка імя Н.К. Крупскай ствараюць той асяродак, што спрыяе цікаўнасці да роднага слова, да айчыннага прыгожага пісьменства. Нездарма адно з бібліятэчных памяшканняў так і называецца – «Пакой роднай кнігі». Вялікую работу, з пункту гледжання бібліяграфічна-краязнаўчага, праводзіць аддзел бібліятэчнага маркетынгу раённай ЦБС.

Ніводная з важкіх дат у жыцці Жлобіншчыны не застаецца па-за ўвагай мясцовых біблёграфаў. Прыкладам, выдадзены буклет і да 80-годдзя юбілею ганаровага грамадзяніна Жлобіна Пятра Андрэевіча Карыбскага. Вядомы ў рэгіёне ветэран за ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне ўшанаваны двума ордэнамі Чырвонага Сцяга, двума ордэнамі Чырвонай Зоркі, двума ордэнамі Айчыннай вайны І ступені, ордэнамі Айчыннай вайны ІІ ступені, многімі медалямі. Расповед пра заслужанага чалавека дапаўняе бібліяграфія публікацый пра яго.

Папулярны бібліяграфічны даведнік «Жлобін» выпушчаны бібліятэкай імя Н.К. Крупскай у 2005 годзе. Прыемна, што выданне багата ілюстравана. Ёсць нават карта раёна. А поруч са звычайнай бібліяграфіяй – спасылка на жлобінскі сайт у Інтэрнеце. Дакладней – на публікацыю ў раённай газеце «Новы дзень», у якой расказваецца пра інфармацыйна-забаўляльны партал, што цалкам прысвечаны Жлобіну. А да 80-годдзя пісьменніка Уладзіміра Федасеенкі выпушчаны буклет «Сын сваёй малой радзімы». Здымкі, якія дапаўняюць тэкст, сведчаць: ганаровы грамадзянін горада Жлобіна, вядомы беларускі празаік – часты госць у бібліятэцы. Літаральна штогод ладзяцца сустрэчы з ім. Падзеяй для землякоў становіцца кожная новая кніга ветэрана.

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ*

## У нумары:



# Брукаванымі вулачкамі – у гаспадаранні Давыда



запрашае ў падарожжа журналіст Ігар ГРЭЧКА на старонку 6

## На тым тыдні...

● **1 чэрвеня** на галоўнай плошчы Полацка адбыўся прысвечаны Дню горада вялікі начны канцэрт «Шэдэўры сусветнага мастацтва ля сцен старажытнай Сафіі». На ім выступілі Сяргей Франкоўскі, Алена Шведава, Уладзімір Пятроў, Аксана Волкава, Ніна Шарубіна, Настасся Масквіна, Алег Мельнікаў, Тацццяна Гаўрылава, Аляксандр Кеда, Аксана Якушэвіч, Эдуард Мартынюк. У іх выкананні пад кіраўніцтвам дырыжора Андрэя Галаванава гледачы пачулі знакамітыя прыклады опернай і эстраднай класікі. Упершыню разам з опернымі артыстамі прагучаў велічны арган Сафійскага сабора.

«Шэдэўры сусветнага мастацтва ля сцен старажытнай Сафіі» з'яўляецца працягам ранейшых праектаў «На прыступках» і «Ноч у Мірскім замку». Варта адзначыць, што за мяжой, напрыклад, у Заходняй Еўропе, «openair» (своеасаблівая форма правядзення фэстаў) з'яўляецца вельмі папулярнай.

● Фестываль «Галасы Палесся» прайшоў **2–3 чэрвеня** ў Іванаўскім краі. Гэты куточак Палесся ўпрыгожылі творы народнага мастацтва, ткацтва, вышыўкі, выцінанкі, многіх відаў народных рамёстваў Брэстчыны, а таксама песні. У рамках фестывалю адбыўся абласны конкурс вышыўкі, ткацтва, народнага касцюма «Узор дзівосны на палатне і кроснах», вечарына «У госці да янаўцаў», відовішча «Снуецца з песнямі льняное прадзіва», конкурс фальклорнага мастацтва «Духоўнай спадчыне аддаласць», выступленне заслужанага аматарскага калектыву ансамбля народнай музыкі «Выцінанка» Столінскага ГДК. Сімвалам свята быў вялізны ручнік, які спецыяльна выткалі майстрыхі. А эмблемай – малюнак гэтага ручніка з буслам на яго фоне.

## Нам пра нас



***Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук, прафесар, сталы падпісчык і аўтар «КГ»:***

*– Многія непаладкі ў сучасным беларускім нацыянальна-культурным жыцці – гэта зусім не нашая абыякавасць да ўсяго, што тут адбываецца. Прычыну найперш трэба шукаць у гістарычным бяспамяцтве народа. Страшна падумаць, колькі пакаленняў яго пражывала на роднай зямлі, не ведаючы не сапраўднай гісторыі?! Сказанае датычыць і беларусаў, жыццёвы шлях якіх прыпаў на XX стагоддзе. За рэдкім выключэннем яны хоць і вывучалі ў школах, тэхнікумах, інстытутах (універсітэтах) гісторыю роднага краю, аднак не тую, што трэба было. У выніку ў гістарычную памяць беларускага народа не патрапіла многае з таго, што ўяўляла сабою найбольш каштоўнае з яго мінулага. Каб наш народ ведаў, колькі яго прашчуры пралілі крыві ў змаганні за дзяржаўную незалежнасць, якімі жорсткімі і каварнымі метадамі навязваліся яму чужыя культура і мова, адукацыя, царкоўна-рэлігійнае жыццё, ён з непараўнальна большай павагай ставіўся б да ўсяго свайго роднага, не мяняў бы яго на навязаныя звонку стандарты.*

*Гістарычная памяць – дамінанта нацыянальнай самасвядомасці, без якой немагчыма паўнавартаснае жыццё народа. Рэдакцыя «Краязнаўчай газеты» робіць велізарнага гістарычнага значэння справу, узбагачаючы веды сваіх чытачоў пра мінулае роднай Бацькаўшчыны. Сёння з гэтай газетай не можа параўнацца аніводзін афіцыйны і неафіцыйны орган перыядычнага друку па фармаванні ў чытачоў актыўнай гістарычнай памяці, а адсюль – здаровай нацыянальнай самасвядомасці. Толькі дзякуючы такому перыядычнаму органу і пры адсутнасці ў краіне адмысловага рэспубліканскага краязнаўчага таварыства не затухае краязнаўчая дзейнасць, узрастае яе роля ў даследаванні самых адметных старонак нашай гісторыі, зусім не простага сучаснага жыцця.*

*Быць падпісчыкам «Краязнаўчай газеты» – гэта не толькі карысна для папаўнення сваіх ведаў пра краіну, у якой жывеш, але і патрыятычна.*

## Зубры, беражыцеся!

Як стала вядома, у Беларусі дазволена паляванне на... цара пушчаў, на зуброў. Не на ўсіх, зразумела, а на тых, хто хворы і можа перадаць нямогласць нашчадкам. Дазвол на адстрэл будзе даваць спецыяльная камісія і з улікам здароўя кожнай асобнай жывёліны. Але права падняць зброю і на нездароўчага лясного асілка будзе дадзена не кожнаму, а таму, хто здолее заплаціць да 10 тысяч еўра.

Сёння ў Беларусі каля 730 гэтага віду жывёл, якія занесеныя ў Чырвоную кнігу.

## Дзікі наступаюць

Да слова, у Браслаўскім раёне, дзе ў паляўнічых угоддзях вепрукоў у 3–4 разы больш таго ліку, які ім вызначаны. Адпаведна, каб як след харчавацца, дзікі не задавальняюцца толькі лясной ежай, але і прастуюць да сельскіх гаспадарак – да бульбы, капусты і інш. Напрыклад, летась, як падлічана, яны здратавалі звыш 6 тысяч розных пасеваў, чым прынеслі шкоду ў 2 мільярды беларускіх рублёў (паўторым, іменна так адлюстравана ў справаздачах!). Бывае, насельнікі западных земляў звяртаюцца са скаргамі ў вышэйшыя дзяржаўныя ўстановы і патрабуюць аплаціць ім панесеныя страты, але не ўсе з іх дамагаюцца свайго.



*...І птушкі застануцца адно на помніках...*

*Фота Святланы ПРАКОФ'ЕВАЙ*

## Першы з 20-ці




***У Мінску, у выдавецтве «Беларуская навука», пад грыфам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, а таксама Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы нядаўна пабачыў свет першы том Збору твораў у 20-ці тамах Якуба Коласа. Як пазначана ў слове ад рэдкалегіі, гэта трэцяе навуковае каментаванае выданне творчай спадчыны народнага паэта Беларусі (першае было ў 12 тамах у 1961–1964 гадах, другое ў 14-ці тамах – у 1972–1978-х).***

У першым томе новага Коласавага Збору твораў змешчана вялікая (каля 140 старонак кніжнага тэксту з 622-х) прадмова «Свайму часу і вечнасці» літаратуразнаўца М. Мушынскага, дзе погляд на жыццёвы і творчы шлях Якуба Коласа пададзены з самых новых архіўных і літаратуразнаўчых даследаванняў. Пасля апублікаваны вершы аўтара 1904–1910 гадоў (у тым ліку і са зборніка «Другое чытанне для дзяцей беларусаў»; 1906–1907). Асобным раздзелам пададзены самыя раннія вершы Якуба Коласа на рускай і беларускай мовах 1898–1905 гадоў, што дазваляе яскрава ўявіць, як фармаваўся яго талент да пачатку першай публікацыі ў 1905 годзе ў газеце «Наша доля». У Збор твораў у раздзел «Dubia» ўпершыню ўключаны «Горад» і «Сяло», якія, на думку некаторых даследчыкаў, належаць пяру Якуба Коласа і напісаны ім у перыяд навучання ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі (паколькі аўтографы і машынапісы гэтых вершаў не выяўлены, яны друкуюцца з захаваннем арфаграфіі першай публікацыі). Звыш 100 кніжных старонак прысвечана іншым рэдакцыям і варыянтам змешчаных твораў, больш за 100 – каментарыям. Ёсць спіс прынятых скарачэнняў і алфавітны паказальнік.

У складзе рэдакцыйнай калегіі – М.У. Мясніковіч, В.А. Максімовіч, І.Я. Навуменка, У.В. Гніламёдаў, М.І. Мушынскі, М.К. Міцкевіч, С.А. Нічыпаровіч, Т.С. Голуб, З.М. Камароўская, А.М. Гарон. Рэдактар тома – М.І. Мушынскі, тэксты падрыхтавалі і склалі каментарыі К.А. Казыра і Т.Р. Строева. Тыраж выдання 1 500 экземпляраў.

## У гасцёўні песняра

***Прэзентацыя першага тома Збора твораў Якуба Коласа ў 20-ці тамах прайшла 31 мая ў гасцёўні Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.***

Вядучы мерапрыемства доктар філалагічных навук, прафесар Міхась Іосіфавіч Мушынскі расказаў пра тых, хто далучыўся да выдання. Падзякаваў за цяжкую, але вельмі патрэбную і адказную працу. Дырэктар Інстытута літаратуры НАН Беларусі Валерый Аляксандравіч Максімовіч паведаміў, што ўпершыню ў гісторыі коласазнаўства пачалося выданне найбольш поўнага збору літаратурнай спадчыны песняра. Па яго словах, тытанічную працу зрабілі вопытныя тэкстолагі. Таму ім была выказана асаблівая падзяка.

У сваю чаргу загадчык аддзела тэксталогіі і навуковых выданняў Інстытута літаратуры НАН Беларусі, кандыдат філалагічных навук Тэрэза Станіславаўна Голуб сказала, што ў том увайшлі тыя вершы, якія па пэўных прычынах не трапілі ў ранейшыя выданні. У шасці вершах упершыню ўзноўлены аўтарскі тэкст, дзе ў свой час па цэнзурных меркаваннях быў парушаны прынцып творчай волі аўтара, а таксама шматлікія тэксталагічныя нюансы, якія не ўлічваліся і не публікаваліся. У першы том увайшлі навуковыя каментары да вершаў 1908–1910 гадоў, аўтарскія рэдакцыі і варыянты гэтых твораў.

Міхась Міцкевіч зачытаў некалькі ранніх вершаў свайго бацькі, напісаных на рускай мове. Многія з іх нідзе не друкаваліся, нават пры жыцці пісьменніка. Пазней Міхась Канстанцінавіч прадэкламаваў творы 1906–1907 гадоў, напісаных ужо на беларускай мове: «Пахаванне», «Вецер», «Доля батрачкі», «Родныя вобразы» і інш.

Мастацкую частку вечара прадоўжылі фартэпіянныя творы ў выкананні вучняў: 3 класа Аляксандра Еўсцігнеева і 5-га Насці Рабцэвіч.

Галоўны захавальнік фондаў музея Антаніна Міхайлаўна Гарон паведаміла, што для ілюстрацый выдання было выкарыстана каля 400 здымкаў, вывучаліся дароўныя надпісы пісьменніка. Ёсць задума надрукаваць невядомыя для шырокай аўдыторыі лісты Канстанціна Міхайлавіча, напрыклад, да Святланы Сомавай.

А яшчэ прысутныя даведаліся, што любімай лічбай пісьменніка была «9».

Гасцёўня песняра ласкава развіталася з шанавальнікамі літаратурнай спадчыны свайго гаспадара і запрашала да новых, цікавых сустрэч.

*Наш кар.*





## Цяпло падземных водаў

ЯК НЯДАЎНА паведаміла БЕЛТА, кантакты паміж Беларуссю і далёкім Кітаем маюць не толькі сімвалічнае значэнне. У прыватнасці, беларускія кіраўнікі зацікавіліся кітайскім вопытам пры будаўніцтве жылля і выкарыстання энергазберагальных тэхналогій, калі можна выкарыстаць цяпло падземных водаў пры ацяпленні дамоў. У сувязі з гэтым неўзабаве ў нас пачнецца эксперымент па будаўніцтве жылых мікраёнаў у Мінску і Брэсце з выкарыстаннем геатэрмальнай (геатэрмальны – ад лац. працэс, звязаны з унутраным цяплом Зямлі і яго выкарыстаннем) энергіі для ацяплення дамоў. Пачаліся адпаведныя кантакты кітайскага і беларускага бакоў, і ўжо ў гэтым годзе мяркуецца пачаць практычную рэалізацыю названага праекта.

ДАРЭЧЫ, НЯДАЎНА было ў друку паведамленне пра іншыя пошукі паліва ў Беларусі. Напрыклад, у НДІ фізіка-матэматычных праблем БДУ атрыманы ўзоры паліва са спрасаванай пад высокім ціскам саломы . Яно, такое паліва, мае розныя варыянты ў сувязі з рознымі сумесямі (торф і інш.). Мяркуецца, што сёлета пачнецца ўжо выпуск саламянага паліва – паводле падлікаў, з 10 мільёнаў тон саломы можа быць атрымана каля 7 мільёнаў тон умоўнага паліва.





*Кароткі слоўнік*
# краязнаўча-прававой тэрміналогіі
*беларускай старажытнасці*

***(Пачатак у № 3 за 2005 г.)***



**ЭКАНОМІІ** (грэч. кіраванне гаспадаркай) – феадальныя зямельныя уладанні ў Польшчы і ВКЛ, выдзеленыя ў 1589–1590 гг. з дзяржаўных зямель для патрэб двара кіраўніка дзяржавы. Мелі сваё адміністрацыйна-гаспадарчае кіраванне. На Беларусі былі Брэсцкая, Гродзенская, Кобрынская, Магілёўская, Лідская, Пінская і Слонімская эканоміі.

**ЭКЗЕКУТАР** (ад лац. выканаўца) – агульная назва выканаўцы судовых выракаў (прысудаў) па крымінальных і грамадзянскіх справах. У ВКЛ гэтыя функцыі ажыццяўлялі ў XV–XVI стст. *апраўцы, віжы, возныя, дэцкія,* але бывала, што права экзекуцыі (пераважна па крымінальных справах) давалася непасрэдна пакрыўджанаму боку. Паводле Статута ВКЛ экзекутарамі называліся і выканаўцы тэстаментаў (наказаў, завяшчанняў) духоўных асоб.

**ЭКЗЕМПЫ** – катэгорыя насельнікаў ВКЛ, на якую не распаўсюджваліся пэўныя нормы і абавязкі. Напрыклад, права грамадзянскіх судоў не распаўсюджвалася на вайскоўцаў.

**ЮРЫДЫКІ** – адміністрацыйна адасобленыя часткі гарадоў ці прыгарадаў, якія былі пад уладай феадала, царквы або манастыра і на жыхароў якіх не пашыралася судовая ці адміністрацыйная ўлада гарадскога самакіравання. Існавалі ў многіх краінах Еўропы, у ВКЛ таксама. На землях Беларусі пачалі дзейнічаць ў пачатку XVI ст. у выніку прымусовага перасялення прыгонных у дамы і на ўчасткі, што належалі феадалам у гарадах, ці перасялення саміх гараджан у межы гарадскіх уладанняў феадала. Пасля Люблінскай уніі 1569 г. юрыдыкам спрыялі ўмацаванне пазіцый і рост уладанняў каталіцызму на Беларусі. Яны паскорылі працэс канцэнтрацыі ў гарадах рамесніцтва і гандлю, што садзейнічала павышэнню іх ролі як цэнтраў дробнатаварнай вытворчасці і абмену. Адначасова пашырэнне юрыдык узмацняла ўплыў феадальнай анархіі на гарады, што перашкаджала іх эканамічнаму развіццю і працэсу саслоўнай кансалідацыі гараджан. Гараджане неаднаразова вялі барацьбу супраць юрыдык.

***ЯЗДОК*** (суддзя-яздок) – межавы суддзя ў ВКЛ, агент, які пры патрэбе выязджаў на месца для вызначэння межаў спрэчных зямель. Пасля стварэння ў 1566 г. *падкаморскіх судоў* гэтыя функцыі выконваў падкаморы.

**ЯРМАРКА** (ням. штогадовы рынак) – кірмаш, які праводзіўся ў пэўны час і ў вызначаным месцы. Права на яго было феадальным прывілеем і звычайна ён дапасоўваўся да якога-небудзь царкоўнага свята. Кірмашы адбываліся не радзей як раз у год амаль ва ўсіх гарадах, мястэчках і вялікіх вёсках ВКЛ, дзе меліся спецыяльныя кірмашовыя плошчы.



***Гусарскі даспех***
*(2-я палова XVII ст.)*




# Ветліца

***«Ветліца» – прыгожае слова, якое нядаўна пачула і даведалася, што яно азначае.***

***У «Беларускай энцыклапедыі» напісана, што «Ветліца» – гэта рака ў Столінскім раёне. Яна мае даўжыню 30 км і з'яўляецца правым прытокам Прыпяці.***

***Больш пра ветліцу нічога не паведамляецца. І ў тлумачальным слоўніку чамусьці звестак няма аб тым, што ветліцамі называюцца дарогі, абсаджаныя з абодвух бакоў вербамі. Якраз гэта і зацікавіла мяне. Вядома ж, захацелася пабачыць такую дарогу.***

Дарогі, якія я ведаю, назваць ветліцамі нельга. Іх цяпер пракладзена шмат у Іллю і з Іллі. Месцамі яны абсаджаны бярозамі або елачкамі. Але старыя бярозы зразаюцца, выкарчоўваюць і елачкі, а маладых дрэўцаў не садзяць. І ўсё ж дзе-нідзе дарогі-ветліцы яшчэ захаваліся.

Мне падказалі, што адна з іх ёсць нават у Іллі. Каб яе пабачыць, неабходна па вуліцы Савецкай прайсці ў бок вёскі Каўшэвічы, а ля дома № 2 павярнуць улева. Тут і пачынаецца вузенькая дарога, абсаджаная вербамі. Раней толькі па ёй і можна было з вёскі патрапіць да ракі на вадзяны млын, які тут быў да вайны, і праз плаціну перабрацца на другі бераг, а ўжо адтуль трымаць накірунак у любы бок: у Старую Гуту, Капусціна і Шчырачыху, у Казлы, або ва Уладыкі ці Залессе і далей ажно да Лагойска.

Людная была некалі гэтая дарога.

Цяпер яна страціла сваё колішняе значэнне: млын спалілі, мост з Іллі ў Старую Гуту з часам разбурыўся, і на яго месцы зрабілі толькі пешаходны. Затое пабудавалі праз раку добры каменны мост у іншым месцы. Густа пасаджаныя вербы ствараюць шчыльныя шаты над дарогай. Нават сонечныя промні з цяжкасцю прабіваюцца скрозь іх. Ісці ці ехаць па такой дарозе летам у спёку – адна прыемнасць. І зімой тут бывае зацішна, менш снегу.

Густа пераплятаецца вярбовае галінне. І птушкам ёсць дзе зрабіць гнёзды, схавацца ад шматлікіх драпежнікаў, а пры жаданні і паспяваць свае непаўторныя песні. Птушкі любяць гэта рабіць.

Такія дарогі-шляхі мелі заезныя двары, дзе можна было адпачыць, пераначаваць, дагледзець коней. Месцамі сустракаліся крынічкі і калодзежы, спецыяльныя пераправы праз неглыбокія рэчкі, дзе можна было напаіць коней, абмыць драўляныя колы, намачыць іх, каб не рассыхаліся.

Часткова гэтыя дарогі дзе-нідзе яшчэ захаваліся і маюць добры выгляд, але па іх ужо надта не ездзяць, яны паступова зарастаюць кустоўем.

Усё мяняецца, мяняюцца і дарогі.

Добра, што не ўсё знікае. Сляды мінулага застаюцца на зямлі: старажытныя паселішчы, могілкі, курганы, каплічкі, цэрквы і старыя дарогі.

І дарогі-ветліцы – таксама.

А назвалі іх ветліцамі невыпадкова. У рускай мове ёсць слова «ветла» – вярба па-беларуску. Вось і назвалі дарогі, абсаджаныя вербамі, ветліцамі.

Мне падабаецца гэтае слова. Хоць яно ўжо амаль не ўжываецца.

***Таццяна СУДНІКОВІЧ,***
***вучаніца Ільянскай СШ***
***з краязнаўчым ухілам***
***імя А.А. Грымаця Вілейскага раёна***



# Багдановіч — з намі!

У весь навучальны год у нашым патрыятычным клубе прайшоў пад знакам памяці Максіма Багдановіча. Для нас Багдановіч – сімвал гарачай любові да Радзімы і веры ў творчыя сілы народа. Ён – вечна малады, і паэзія яго вечна маладая. Ён найбольш блізкі і зразумелы нам, юным беларусам. Я ўпэўненая, што мне па жыцці заўжды будзе спадарожнічаць цудоўнае паэтычнае слова Максіма Багдановіча, будзе надаваць мужнасці прыклад яго самаахвярнага жыццёвага подзвігу.

Я мару, каб кожны адкрыў для сябе Багдановіча, наталіўся патрыятызмам з яго радкоў.

Каб падзяліцца сваёй радасцю ад судакранання са святлом Багдановічавай паэзіі, наш клуб правёў у дзень 115-гадавіны з дня нараджэння паэта свята «Сустрэча сяброў» у сценах нашай роднай школы. Да гэтага дня быў прымеркаваны конкурс малюнкаў да твораў паэта, прайшоў конкурс чытальнікаў яго вершаў, былі выпушчаны насценныя газеты, што апавядалі аб жыццёвым і творчым шляху паэта, аб падарожжах клубаўцаў па мясцінах, звязаных з імем М. Багдановіча.

На свяце гучалі радкі любімага паэта, песні на яго вершы, а таксама нашы творы, прысвечаныя Максіму Багдановічу. Асабліва прачула гучалі словы з Багдановічава «Апокрыфа».



***На здымках: на свяце «Сустрэча сяброў» Дзіма Карловіч і Сяргей Сямашка выконваюць песню Эдуарда Акуліна «Мая Крывія» (зверху); у любімым музеі***

Сапраўдным упрыгажэннем свята сталіся нашыя шаноўныя госці, найшчырэйшыя сябры клуба – дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Таццяна Эдуардаўна Шэляговіч, вучоны сакратар музея Ірына Вітальеўна Мышкавец і Аляксей Эдуардавіч Галіч. Іх прысутнасць, цёплыя ўсмешкі і словы надалі упэўненасці ў правільнасці абранага намі шляху.

А 25 мая – 90-я ўгодкі памяці паэта. І вядома ж, наш шлях у гэты дзень – у Траецкае, да помніка найлепшаму з сыноў Беларусі. Мы будзем слухаць словы неабыякавых людзей, прысвечаныя памяці паэта. А можа пашчасціць і нам сказаць колькі слоў для Багдановіча. Слоў, што ідуць з самага сэрца, з глыбіняў душы. І, вядома ж, ускладзём васількі да ног паэта. Яны цвітуць на зямлі для яго, для нас, для ўсіх, каму дарагая Бацькаўшчына, для якой «не шкада і жыцця маладога», «абы толькі праменнай дарогай крочыў горда народ наш жывы».

***Паліна ЛАШКОЎСКАЯ,***
***9 гадоў, староста літгуртка***
***«Жывое слова» клуба***
***«Спадчына» Дварэцкай СШ***
***Дзятлаўскага раёна***

## Прызнанне

*Мой любімы паэт!*
*Словы ўдзячнасці шчырай прымі.*
*Гэта ты навучыў мяне бачыць*
*Непаўторнасць нашай зямлі.*

*Мы вершы твае чытаем,*
*І верым – ты чуеш нас.*
*І ў сэрцы надзею маем,*
*Што памяць не згасіць час.*

***Лізавета ЛЯЎШУК,***
***10 гадоў, сябра клуба***
***«Спадчына» Дварэцкай СШ***
***Дзятлаўскага раёна***





## Пра старажытны горад... ...і генерала К. Кандратовіча

Невялікая кніжка, але як шмат у ёй расказана пра старажытны горад! Дарэчы, і назва сціплая: «Краткая история города Лиды. Рассказанная и нарисованная». На вокладцы – хлопчык, які ў задуменні абапіраецца галавою на свае ручкі, а побач намаляваны выявы знаных будынкаў, помнікаў і інш. Выкладзены самабытнай мовай, аповед суправаджаюць прывабныя малюнкі. Радок за радком расказвае пра першых насельнікаў балцкага роду-племені і наступных пакаленнях горада з дзявочым імем. Аб князях і каралях, войнах і паўстаннях, розных уладах... І, канечне, пра лідчан, якія мужна абаранялі свой край, будавалі гарадскія кварталы, свае храмы, установы асветы, прадпрыемствы.

Апошнім часам у людзей расце цікавасць да гістарычнай спадчыны. У школах абласнога цэнтра, напрыклад, уводзіцца курс «Гродназнаўства». Для падобнага навучання ў Лідзе, упэўнены, вельмі спатрэбіцца згаданая кніга. Яе быццам адмыслова стварылі дзеля гэтага старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гісторыка-мастацкага музея Валеры Сліўкін і слынны мастак з Бярозаўкі Уладзімір Мурахвер. Такі атрымаўся творчы дуэт кандыдата геаграфічных навук і заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

Напрыканцы заўвага аб даце вызвалення Ліды ад нямецкіх захопнікаў. Адны называюць такім днём 8 ліпеня 1944 года, іншыя, у тым ліку і аўтары энцыклапедычных выданняў, – 9 ліпеня таго ж года. Ці не прыйшоў час на падставе дакументаў прыйсці да агульнай высновы і дакладнай даты?

Здарылася так, што імя таленавітага рускага і беларускага военачальніка, пра якога пісалі газеты яшчэ ў XIX стагоддзі і які з'яўляўся ў той час аглядальнікам газеты «Московские ведомости», было мала каму вядомае на яго малой радзіме. Ды што казаць пра земляко ў! Нават у «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» не названа дата смерці генерала Кіпрыяна Кандратовіча. У чацвёртым томе сказана, што пасля паездкі ў 1919 годзе на Парыжскую мірную канферэнцыю, ён там застаўся жыць. Ды тут патрэбна папраўка і ўдакладненні.

Але вернемся ў XIX стагоддзе. Будучы генерал нарадзіўся ў 1859 годзе ў вёсцы Зіневічы (гэта на мяжы Воранаўскага і Лідскага раёнаў), ён быў пазашлюбным сынам павятовага суддзі Ю. Трубяцкога. Маці Кіпрыяна, Зінаіда Залеская, дачка ўладальніка маёнтка Місевічы, што непадалёк ад Зіневіч, выйшла потым замуж за шляхціца Антона Кандратовіча, чыё прозвішча атрымаў хлопчык. Трубяцкія ганарыліся сваім паходжаннем ад унука Гедзіміна. Таму, як прыстойныя людзі, не адракліся ад Кіпрыяна: выхоўвалі малога, дапамаглі яму атрымаць адукацыю і пачаць кар'еру вайскоўца.

Кар'ера К. Кандратовіча склалася бліскуча. Ён вызначыўся ў руска-турэцкай і руска-японскай войнах, у 1905 годзе атрымаў званне генерал-лейтэнанта. Удзельнічаў у Першай сусветнай вайне. У 1917-м далучыўся да беларускага нацыянальнага руху, неўзабаве стаў членам урада БНР...

Апошнія гады свайго жыцця генерал правёў на радзіме, у маёнтку Гародна Лідскага павета даваеннай Польшчы, набытым яго сям'ёй перад сусветнай вайною. Памёр К. Кандратовіч 31 кастрычніка 1932 года, быў пахаваны на праваслаўных могілках г. Ліды. У канцы ж мінулага стагоддзя прах военачальніка двойчы перапахавалі. У жніўні 1998 года ўнук генерала перавёз яго парэшткі на новыя могілкі г.п. Воранава, а ў 2000 годзе намаганнямі святара Воранаўскай царквы Мікалая Семашкевіча знакаміты зямляк быў перапахаваны ля гэтага храма. На магіле колішняга міністра пастаўлены сціплы помнік.

Пра складаныя жыццёвыя пуцявіны славутага ў свой час чалавека расказана ў кнізе «Генерал Кіпрыян Кандратовіч». Аўтар яе – вядомы лідскі краязнавец, работнік мясцовых электрасетак Лявон Лаўрэш – разам з аднадумцам Уладзімірам Круцікавым многае зрабіў для вяртання з забыцця імя славутага палкаводца. Кніга змяшчае малавядомыя факты аб ваеннай кар'еры генерала і яго грамадскай дзейнасці, шматлікія фотаздымкі.

*Аляксандр ЖАЛКОЎСКІ,*
*г. Ліда*

**Асоба ў краязнаўстве**

***Старэйшыя жыхары аднаго з буйнейшых гарадоў Беларусі – Маладзечна, ды і раёна, добра памятаюць неардынарнага чалавека, шчырага беларуса, як казалі, краязнаўцу ад Бога – Вячаслава Антонавіча Ляшковіча (24.08.1924 – 31.05.1997).***

# У храме памяці і лёсу краязнаўца ад Бога

### *10 гадоў таму не стала Вячаслава Антонавіча Ляшковіча*

Адна з вуліц старажытнага, але вельмі сучаснага, прыгожага і фестывальнага горада названа яго імем. Хто ён? За што такія гонар і павага?

В.А. Ляшковіч нарадзіўся ў сялянскай шматдзетнай сям'і, у в. Леснікі Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Вучыўся ўсё жыццё, шмат займаўся самаадукацыяй. Пачынаў з простага шафёра, а яго апошнія пасады: рэдактар раённай газеты «Святло камунізму» (папярэдніца «Маладзечанскай газеты»), сакратар райкама, дырэктар абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне ў рангу Заслужанага работніка культуры Беларусі...

Вячаслаў Антонавіч – ветэран Вялікай Айчыннай вайны. Простым аўтаматчыкам у самым стратным родзе войскаў – пяхоце ён змагаўся з ненавісным ворагам у складзе Прыбалтыйскага і Ленінградскага франтоў. Шмат разоў быў паранены, а аднойчы вельмі цяжка кантужаны. У тым баі за горад Ленінград, на трагічна вядомым Неўскім Пятачку, байцы стаялі на смерць, і выжыць было зусім немагчыма. Але чырвонаармейца Ляшковіча санітары знайшлі жывым у акопе, хоць ён і быў засыпаны зямлёй – тырчаў толькі бот. А ў той час з вайсковай часці, дзе ён праходзіў службу, пайшоў бацькам афіцыйны дакумент – пахаванка. Пахавалі, аплакалі і ўжо звыкліся са стратай. А ён выжыў «всем смертям назло» і прыехаў у адпачынак. Ніхто не верыў сваім вачам! Зноў было многа слёз суседзяў і радні, але тое ўжо было ад радасці, што жывы. За шматлікія баявыя і працоўныя подзвігі-дасягненні Вячаслаў Антонавіч быў узнагароджаны высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі больш за 20 раз. Сярод іх ордэны Айчынай вайны I і II ступеняў, Чырвонай Зоркі, медаль «За адвагу». А пасля вайны свой дзень нараджэння ён адзначаў заўсёды двойчы на год: 23 сакавіка, калі застаўся жывым пасля таго бою, і 24 жніўня, калі нарадзіўся.





*В.А. Ляшковіч сярод родных (уверсе); помнік загінулым лётчыкам (аўтар – герой артыкула)*

Яго захапленне было зусім незвычайнае, і вельмі многім (нават высокаадукаваным людзям) незразумелае. Ён шукаў, адшукваў і ствараў помнікі са звычайных камянёў-валуноў! Ён ведаў пра іх усё: дзе, на якім полі, які ляжыць камень. І зусім невыпадкова, што пры складанні Атласа ледавіковых камянёў у Акадэміі навук БССР з ім раіліся. А народны паэт Беларусі Н.С. Гілевіч у артыкуле «Нястомны руплівец», надрукаваным у газеце «Літаратура і мастацтва», так сказаў: «...Вы бывалі, сябры, у родным гняздзе Янкі Купалы ў Вязынцы, і Вам спадабалася там? Вы адчулі добрае вока і сэрца гаспадароў гэтай зямлі? Дык скажыце дзякуй В. Ляшковічу, бо і ён там нямала пакінуў сэрца свайго. Вы бывалі у Ракуцёўшчыне, што каля Краснага, і бачылі “Сад Максіма”? І бачылі вялізны валун, на якім прымацавана дошка з радкамі Максіма? Дык не прамініце падзякаваць В. Ляшковічу – бо пачалося гэта ўсё з яго задумы, з яго ініцыятывы ды і рабілася ўсё ягонымі рукамі пераважна... Вы спыняліся каля унікальнага помніка старажытнаму Віленскаму шляху? Дык зноў падзякуйце В. Ляшковічу – гэта цалкам плён яго руплівасці».

В. Ляшковіч быў блізка знаёмы і сябраваў з вельмі многімі славутымі людзьмі былога СССР. Не кожны можа пахваліцца, што яго найлепшыя сябры – вядомы дыктар радыё Ю. Левітан, акадэмік М. Самсонаў, паэты Н. Гілевіч, М. Дабранраваў, М. Танк, кампазітар А. Пахмутава, акцёр М. Яроменка, пісьменнікі А. Мальдзіс і У. Караткевіч, скульптар А. Анікейчык... І спіс гэты не поўны, яго яшчэ можна доўжыць... «Вы, напэўна, бачылі камень на магіле нашага слыннага паэта і пісьменніка Уладзіміра Караткевіча? А на магіле вучонага-моваЗнаўцы Фёдара Янкоўскага? На магілах паэта Рыгора Семашкевіча і журналіста Якуба Міско? А ці ведаеце, што гэтыя камяні адшукаў на маладзечанскай зямлі В. Ляшковіч?» Ён заўсёды нешта тварыў, прыдумваў, пісаў... А ў вольны час абавязкова слухаў радыёперадачы пра ветэранаў мінулай вайны. У яго рабочым кабінеце, напэўна, тысяч 5–6 розных кніг: па мастацтве, вельмі багатая калекцыя «ЖЗЛ», а ў асобнай шафе стаялі кнігі-падарункі з аўтографамі аўтараў. Тут былі і шматлікія сувеніры, буклеты, пісьмы, фота...

Вячаслаў Ляшковіч быў вельмі ўважлівы чалавек, заўсёды дапамагаў людзям чым мог. А да кожнай жанчыны ён звяртаўся не інакш, як «расінка-залацінка»! Але аднойчы такія шчырыя рысы яго характару сталі ракавымі. Баявыя ўзнагароды, амытыя крывёю і потам, укралі. Злодзеі прыйшлі да ветэрана вайны і працы быццам для таго, каб запрасіць на сустрэчу з навучэнцамі сваёй навучальнай установы. І па сваёй шчырасці Вячаслаў Антонавіч паверыў ім, нават смачным чаем з варэннем пачаставаў. А злодзеі тым часам выглядалі, дзе ордэны і медалі ветэрана. Потым сваё злачынства яны здзейснілі, і гэта быў ветэрану ўдар нажом у спіну. Пазней міліцыя знайшла ўзнагароды, але ўсё гэта пакінула чорны след на здароўі Вячаслава Антонавіча. А пасля – зноў бяда: на пешаходным пераходзе яго збіла машына і, як у наш час павялося, вадзіцель уцёк. Вось так і дабілі ветэрана! Выжыў у страшэннай і цяжкай, крывавай вайне, а тут, у мірны час...

***Вось такім быў наш сучаснік, ганаровы грамадзянін Маладзечна, краязнавец ад Бога – Вячаслаў Антонавіч Ляшковіч.***

*Мечыслаў СТАНКЕВІЧ,*
*краязнавец,*
*г. Маладзечна*





# 2007: Год Слова Купалы і Коласа



*(Працяг. Пачатак у №№ 3–21)*

Што тут можна дадаць? Мелі выдатны «нюх» знаўцы мастацкага слова і на беларускае! Варта падкрэсліць у сувязі з гэтым і іншае: для Купалы і гэты перыяд папулярнасці па-свойму выпрабоўваў яго. Яму было ўжо цеснавата і маркотна ў Вільні, ён жадаў атрымаць глыбейшую гуманітарную адукацыю і часамі залішне давяраўся катэгорыі люду, якую называюць «прыхільнікамі таленту і сябрамі», бавіў з імі шмат часу за сталом з пітвом. У сувязі з гэтым яго сапраўдныя дарадцы і апекуны (Ул. Самойла і Б. Эпімах-Шыпіла) пачалі асцерагацца, каб у гэтых стасунках паэт не выбіўся з творчай каляіны, не пачаў празмерна багемнічаць, асабліва аддаваць даніну «Вакху, шкляному богу» (В. Ластоўскі). Адпаведна, самыя шчырыя і заклапочаныя пачалі настойліва дбаць, каб Купалу накіраваць у Пецярбург, да Эпімаха-Шыпілы і на вучобу (на агульнаадукацыйныя курсы А. Чарняева). Туды ён хутка і накіруецца. Дарэчы, той расійскі вясковец А. Чарняеў (спачатку, як і Купала, самавук) быў вельмі цікавы чалавек: дбайнай працай выбіўшыся ў людзі, высакародна рабіў усё магчымае, каб адукацыяй памагчы ўсім бедным расійскім самародкам.

Як яшчэ ўспамінаў В. Ластоўскі, у ліпені адбылася цікавая падзея: «да энтузіястычнай і без таго атмасферы, якая ў тыя часы панавала ў "Нашай Ніве", упаў кіпучы метэор». Гэтай знічкай быў зусім малады, але ўжо яркі публіцыст і адзін з пачынальнікаў прафесійнай беларускай крытыкі С. Палуян (1890–1910), які пачаў патрабаваць ад газеты і твораў, што ў ёй маглі друкавацца, больш высокай разумовай і творчай культуры. «Стаўлялі самі сабе магчыма большыя вымогі. У выніку двох-трохмесячнага такога напружання мы самі ўзраслі, а перш за ўсё ўзрос Янка Купала». Невыпадкова неўзабе паэт падорыць маладому рупліўцу сваё фота за 1908 год з цёплым подпісам.

У кастрычніку «Наша Ніва» (№ 43) паведамляе чытачам, што друкуецца «Першы беларускі каляндар "Нашай Нівы" на 1910 год» і асобным выданнем «А хто там ідзе?». У лістападзе Купала ў гурце вядомай беларускай інтэлігенцыі (Ядвігін Ш., В. Ластоўскі, І. Луцкевіч, С. Палуян, А. Бурбіс, А. Уласаў і інш.) складае сумесны віншавальны ліст М. Федароўскаму (1853–1923) – выдатнаму польскаму і беларускаму фалькларысту, этнографу, археолагу, аўтару даследавання «Люд беларускі» (пачало выдавацца ў 1891 годзе), якое адыграла выключнае значэнне ў справе станаўлення не толькі беларускай культуры, але і нацыі.

Тым не менш... Купала – малады, халасты чалавек з шляхетнымі аблічам і годнасцю, паэт, якога ненавідзяць, абражаюць «прыкарытнікі», але ўсё больш і больш прызнаюць сапраўдныя знаўцы прыгожага пісьменства.

У снежні занепакоены У. Самойла накіроўвае ў Пецярбург Эпімаху-Шыпілу трывожны : «Теперь же хочу обратиться к Вам письменно все по поводу... бедного Янука...» (Янка Купала. Поўны збор твораў. Том 9, кніга другая. С. 80–81).

## У пошуках ведаў

*(Заканчэнне. Пачатак у № 21)*

Прыйшло, нарэшце, і першае прызнанне як вучонага. Таварыства прыродазнаўцаў пры Пецярбургскім універсітэце выбрала яго сваім сапраўдным членам.

Характарыстыка А.С. Чарняева будзе няпоўнай, калі не сказаць пра яго педагагічныя погляды, пра яго ўласную сістэму выхавання. Чарняеў лічыў, што з усіх недахопаў, уласцівых тагачаснай школе, самы вялікі – недасканаласць выхавання. *«Можна прама сцвярджаць*, – пісаў А.С. Чарняеў, – *што ў нас няма ніякай выхаваўчай сістэмы, амаль нічога не робіцца для развіцця маральных ідэалаў у юнацтва, зусім без увагі пакінута развіццё волі, прадпрымальнасці, ініцыятывы, творчасці, любові да радзімы і іншых грамадзянскіх дабрачыннасцяў»*.

Асновай выхавання высакародных пачуццяў і імкненняў, лічыў Чарняеў, павінна стаць знаёмства з біяграфіямі славутых людзей.

Менавіта на такіх высакародных прынцыпах будавалася навучанне на курсах, дзе давялося вучыцца Янку Купалу.

Паступіўшы на курсы Чарняева, Купала неўзабаве ўладкаваўся працаваць на казённы вінзавод практыкантам. Трэба было зарабляць на пражыццё, бо прыехаў ён у сталіцу «без капейкі за душою».

Пасля работы паэт ішоў на заняткі, якія праводзіліся кожны дзень, акрамя святочных, з 6 да 11 гадзін вечара. У нядзельныя дні ішлі практычныя заняткі па прыродазнаўстве і грамадскіх навуках. Значная ўвага надавалася вывучэнню замежных моў. У 3-м і 4-м класах абавязкова вывучаліся лацінская, французская і нямецкая мовы. Калі хто з курсантаў жадаў займацца імі раней, то павінен быў унесці дадатковую плату (18 рублёў у год).

Кожную чвэрць года на курсах праводзіліся рэпетыцыі па ўсіх прадметах, а ў канцы навучальнага года слухачы здавалі пераходныя экзамены. Скончыўшы курсы і вытрымаўшы выпускныя экзамены, яны атрымлівалі адпаведныя пасведчанні.

За чатыры гады навучання курсанты павінны былі адолець праграму больш насычаную, чым у сярэдняй школе. Яны вывучалі такія дысцыпліны, якія нават у наш час прадугледжваюцца толькі праграмай вышэйшай школы.

Што ж вывучаў Купала на курсах Чарняева?

Першым у праграме, па вядомых прычынах, значыўся Закон Божы, але гэта зусім не азначае, што вывучэнню яго аддавалася перавага перад іншымі прадметамі. Наадварот, на вывучэнне Закону Божага курсантам давалася 1 гадзіна на тыдзень. Звычайна ў раскладзе лекцыі па гэтым прадмеце былі апошнімі.



*Я. Купала і беларускія студэнты (Пецярбург, 1910 г.)*

Вялікае месца ў праграме адводзілася вывучэнню рускай мовы і літаратуры. Руская мова вывучалася на працягу ўсіх чатырох гадоў. Акрамя літаратуры, курсанты вывучалі вышэйшы курс рускай граматыкі і граматыкі старажытнай рускай мовы. На чацвёртым годзе навучання яны працягвалі слухаць курс гісторыі літаратуры і лекцыі па тэорыі славеснасці, чыталі лепшыя творы айчыннай літаратуры, пісалі сачыненні. Янку Купалу вельмі падабаліся лекцыі прафесара К.Р. Жакава, які, акрамя тэорыі славеснасці, чытаў логіку, псіхалогію, этыку. Паэта пакарылі не толькі веды вучонага, але і яго дэмакратызм. З цікавасцю ён слухаў таксама лекцыі па гісторыі літаратуры, якія чытаў вядомы ў свой час вучоны, прафесар Пецярбургскага універсітэта А.К. Бараздзін.

Складанай і шырокай была праграма па матэматыцы, якая вывучалася ўсе чатыры гады. Курсанты вывучалі арыфметыку, алгебру, геаметрыю, трыганаметрыю, аналітычную геаметрыю. Акрамя рускай мовы, літаратуры, матэматыкі, на працягу трох гадоў вывучалася гісторыя, два гады адводзілася на вывучэнне геаграфіі. Звыш названых дысцыплін слухачы павінны былі праслухаць сістэматычны курс касмаграфіі, логікі і эксперыментальнай псіхалогіі.

У першым і другім класах вывучаўся курс прыродазнаўства, які складаўся з папулярных лекцый па хіміі, фізіцы, батаніцы, заалогіі.

Чыталіся таксама лекцыі па неарганічнай хіміі, мінералогіі, даваліся звесткі з геалогіі, крышталаграфіі, крышталафізікі, крышталахіміі, у апошніх класах вывучалі батаніку, знаёміліся з марфалогіяй, сістэматыкай, анатоміяй, фізіялогіяй і біялогіяй раслін, вывучалі анатомію і фізіялогію чалавека, заалогію. Агульным і абавязковым для ўсіх быў прадмет заканадаўства.

У вольны ад працы і ад заняткаў час Купала меў магчымасць наведаць мясціны, апетыя класікамі рускай літаратуры Пушкіным, Лермантавым, Някрасавым, азнаёміцца са скарбамі выдатных пецярбургскіх тэатраў і музеяў. Тут адбываліся сустрэчы з прагрэсіўнай студэнцкай моладдзю, з землякамі – рабочымі Пуцілаўскага, Абухаўскага, Семенікоўскага і іншых заводаў; тут адчуваўся дух рэвалюцыйнай барацьбы пецярбургскага пралетарыяту.

Курсы Чарняева давалі слухачам глыбокія і грунтоўныя веды. Закончыўшы іх, многія паступалі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Не выключэнне і Янка Купала: у 1915/1916 навучальным годзе ён вучыўся ў гарадскім народным універсітэце імя Шаняўскага ў Маскве.

***Вучоба на курсах дала вельмі многа беларускаму паэту. Ён прыехаў у Пецярбург самавукам, які меў у кішэні пасведчанне аб пачатковай адукацыі ды свой першы зборнік вершаў «Жалейку», а вярнуўся адтуль сталым мастаком слова, аўтарам неўміручых твораў, якія хвалявалі яго сучаснікаў, хвалююць нас і будуць хваляваць наступныя пакаленні.***

*Жанна ДАПКЮНАС,*
*Вольга ДЭКОНСКАЯ*

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–21)*

У майскім лісце сярод наракан-няў ёсць і цікавы момант адносін Я. Коласа да паплечніка Я. Купалы. Аўтар ліста паведамляе, што яму ад «таварыша з Сібіры» стала вядома пра цёплую ацэнку ягонай творчасці ў часопісе «Познание России». «Меня, между прочим, – пісаў Я. Колас, – называют вторым Шевченко, белорусским, конечно. Хотелось бы этому верить, да скептицизм заедает – как бы не вышло тут ошибки. Вероятно, он (аўтар артыкула) смешал меня с Я. Купалой... Если же, сверх всякого чаяния... слова сии предназначены мне, будет великое ликование в моей душе. Это и будет единственный источник моей радости и смысла моей жизни...» З гэтых радкоў яскрава відаць, што Я. Колас зычліва адводзіў паплечніку-аднагодку ролю лідэра ў беларускай паэзіі. А што датычыць высокай ацэнкі і ягоных вершаў, то гэта зняволенага паэта не магло не натхніць на новую творчую працу.

*Жнівень або пасля жніўня.* Я. Коласа ў астрозе наведвае ягоны даўні прыхільнік Ц. Гартны. Адбылася нядоўгая, але сардэчная размова пра жыццё-быццё, пра «Нашу Ніву» і новыя творы беларускай літаратуры. Як пазней нагадае Ц. Гартны пра тую сустрэчу, «я пайшоў з астрога, несучы ў думках вобраз Я. Коласа, які моцна крануў мяне сваёй мяккасцю і замілаваннем».

У 1909-м Я. Коласу яшчэ не ўдалося выдаць першы зборнік паэзіі (хоць на яго ўжо хапала вершаў, тым больш, што толькі ў названы год іх было напісана больш за 50), але ён усё ж стаўся аўтарам кнігі. Гэта было складзенае да зняволення і папоўненае ў ім праз перадачу на волю сваіх твораў «Другое чытанне для дзяцей беларусаў», што выйшла ў Пецярбургу ў суполках «Загляне сонца і ў наша ваконца» і «Наша хата».

*1910.* Я. Колас працягвае адбываць турэмнае зняволенне, пісаць вершы і тое-сёе з іх змяшчаць у «Нашай Ніве». У ёй у лютым з'явіцца артыкул дваццацігадовага таленавітага С. Палуяна (1890–1910; беларускі пісьменнік, публіцыст, адзін з пачынальнікаў беларускай прафесійнай крытыкі), дзе той у аглядзе беларускай літаратуры за мінулы год заўважыць: «Паглыбела і паэтычная думка і ў Я. Коласа, але ненармальныя ўмовы яго жыцця не даюць яму магчымасці акуратна развівацца, а грамадству сачыць за яго развіццём». У красавіку С. Палуян у часопісе «Украінська хата» змяшчае рэцэнзію на хрэстаматыю «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» і падкрэслівае: «Якуб Колас – вядомы беларускі паэт, былы народны настаўнік. І тое, і другое добра ўплывала на яго кніжку, бо і складзена яна адпаведна патрабаванням педагогікі і прываблівае сваёй паэтычнасцю. Акрамя таго, мае ў сабе і асноўныя прыкметы Коласа – яго народнасць і патрыятызм».

*Да верасня.* У Вільні выходзіць першы зборнік вершаў Я. Коласа «Песні жальбы» (аб'ява пра гэта ў «Нашай Ніве» з'явілася за 2 верасня, а кніга ў кнігарні паступіла ў снежні (звесткі С. Аляксандровіча)).

*Верасень, 25.* Вядомы даследчык рускай літаратуры ў лісце ў «Нашую Ніву» зазначае: «На маю думку, Якуб Колас вялікі паэт».

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*

***Нягледзячы на спёку, старажытны Давыд-Гарадок вітаў апошнія дні вясны надзвычай радасна. Нават князь Давыд, помнік якому стаіць на цэнтральнай плошчы, падалося, усміхнуўся, ласкава запрасіў да сваіх уладанняў. «Вось сюды!» – дзідай паказаў мне дарогу ўнук Яраслава Мудрага. У канцы вуліцы, перад уваходам на замчышча, сустрэлі вартавыя. Дрэвы-волаты крыху пашапталіся паміж сабой лістотай, а калі пачулі ад князя загад, які прынёс ім вецер, прыветліва, але насцярожана ўпусцілі незнаёмца.***




«Отсюда есть пошел городок Давыда. XII век» – сведчыць шыльда на камені, які ляжыць на самым ускрайку Замкавай гары. Менавіта тут доўгі час знаходзіўся Давыд-Гарадоцкі дзядзінец, а пазней, у XIV–XVIII стагоддзях, замак. У тыя далёкія часы гара ўзвышалася над ракой Гарынню на 3–5 метраў, была абкружана магутным валам, насыпаным з рачнога пяску. Паводле інвентароў пачатку XVII стагоддзя, вакол замка стаяў паркан, у якім былі старыя «башты», 5 разбураных «вежак», а таксама 2 вежы. Пры ўездзе ў замак з боку горада знаходзілася брама. Інвентары другой паловы XVII стагоддзя паведамляюць пра два замкі: «Горны» (Верхні) і «Дольны» (Ніжні). Верхні быў абнесены высокім валам і абкружаны вадой, Ніжні меў парканную агароджу. Вакол абодвух замкаў існаваў новы дубовы зруб. Паступова замкі прыйшлі ў запусценне і ператварыліся ў рэзідэнцыю адміністратараў латыфундыі Радзівілаў.

Войны, шматлікія ліхалецці, напрыклад, Давыд-Гарадоцкае паўстанне гараджан і сялян (1648–1650), вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–1667 гадоў, а таксама раскопкі, якія праводзіліся на замчышчы ў мінулым стагоддзі, змянілі знешні выгляд гістарычнага цэнтра горада. Даўно няма ні вежаў, ні дубовага зруба, ні брамы. Перасохлі рэчкі Чартарыя і Няво額ля, якія абкружалі Верхні замак. Цяпер на іх месцы вуліцы Замкавая, Радзіцкая і Зялёная (*фота на стар. 1*). Насыпы Ніжняга замка, наогул, не захаваліся.

Маё падарожжа ў мінулае перапынілі дзіцячыя крыкі і смех, што напоўнілі падножжа Замкавай гары. Па-святочнаму апранутыя хлопчыкі і дзяўчынкі вярталіся з апошняга званка, скончыўся навучальны год у школах.

Доўгі час памяць пра багатую гісторыю палескага мястэчка захоўвалі замчышча, летапісы, дакументы мінулых стагоддзяў, старыя фотаздымкі. Даўно наспеў час сістэматызаваць шматлікі матэрыял. Зусім нядаўна даведаўся, што быў адкрыты музей гісторыі горада. Таму, развітаўшыся з Замкавай гарою, а таксама вартавымі, якія праводзілі мяне пільным позіркам, накіраваўся да колішняга будынка гарадскога 4-класнага вучылішча. Менавіта тут у двух пакоях размясціўся музей.

Яго кіраўнік прыветліва сустрэў, пазнаёміліся. Пасля Мікалай Паўлавіч Бразоўскі, марак дальняга плавання, ганаровы грамадзянін Давыд-Гарадка, пачаў цікавую экскурсію:

– Мара стварыць музей узнікла яшчэ ў тыя часы, калі мне даводзілася наведваць розныя краіны свету. І вось на 900-годдзе нашага горада была створана група па арганізацыі музея, зборы адпаведнага матэрыялу. Мяне прызначылі кіраўніком. Напісалі аб'явы, размясцілі іх па горадзе. Ваказвалася прапанова і просьба да жыхароў прыносіць экспанаты, розныя рэчы. Таму наш музей сапраўды з'яўляецца народным. Такое званне яму было прысуджана 5 кастрычніка 2004 года. Афіцыйнае адкрыццё адбылося 23 лютага 2001 года. Прысутнічалі прадстаўнікі мясцовай улады. Спачатку музей размяшчаўся ў адным пакоі. Цяпер жа ў двух. Хаця і гэтага недастаткова. Няма, на жаль, і добрага фондасховішча. Над стварэннем экспазіцыі працуе шмат людзей. Хочацца адзначыць Канстанціна Іванавіча Байду, які перакладае матэрыялы з польскай мовы. Афармленне экспазіцыі, стэнды зрабіў мой сын Мікалай Мікалаевіч. Дзякуй і Веры Пятроўне Кузьміч, колішняй настаўніцы рускай мовы і літаратуры, завучу. Цяпер яна на пенсіі, але працягвае актыўна дапамагаць музею. Дарэчы, вось гэты экспанат падараваны ёю.

Мікалай Паўлавіч запрасіў у першую залу.

– Вазок, у які запрагаліся людзі і цягалі, напрыклад, з поля зелле, зрабіў яе бацька. Усе дэталі створаны ўручную. Нават гайкі і вінты. Тут рэчы для ткацтва. Гэтае палатно, а таксама вірок, маёй маці. А вось матэрыялы з раскопак Замкавай гары 1967 года. То каменная сякера, а то – рогі жывёл.

Мікалай Паўлавіч пачакаў, пакуль я разгледжу здабыткі археолагаў. А пасля з гонарам, калі гавораць толькі пра самы каштоўны экспанат, прамовіў:

– А то скрыня... XIX стагоддзя. Адметнасць яе ў драўляных ножках. Пасля ў пачатку XX стагоддзя ў Давыд-Гарадку з'явіліся куфры, яны былі на металічных колцах. А потым – камода.



*М.П. Бразоўскі каля вазка*

Кіраўнік музея пазнаёміў мяне і з іншымі экспанатамі, што стаялі ў гэтай зале. Напрыклад, з колішняй пральнай машынай – жлуктай, своеасаблівай бочачкай. Расказаў Мікалай Паўлавіч і пра сам працэс прання, яго тэхналогію. У жлукту засыпаўся попел, клалася бялізна, якая пасыпалася попелам. І так у некалькі слаёў. Усё залівалася вадою. Наверх анучу, а на яе – гарачае каменне, што награвалі ў печы. Потым клалі накрыўку.

Побач вярэнька – своеасаблівы халадзільнік, боня для захоўвання сала. Тут і прымусы, і прасы, і вугальны самавар, і кварты з бяросты, і медны збан (выраблены мясцовымі майстрамі ў XIX стагоддзі), і саха, і дзесяцярычныя вагі з фунтовымі гірамі. А яшчэ ахоўная калатушка. Яе прызначэнне было наступным. Раней хаты, гаспадарчыя пабудовы былі драўлянымі, крыліся чаротам, таму часта адбываліся пажары. Каб іх папярэдзіць, своечасова паведаміць жыхарам горада аб узгаранні, а таксама для аховы грамадскага парадку, арганізоўвалася варта. Складалася з гарадчукоў ці найманых людзей. Хадзілі па 2–3 чалавекі. Час ад часу яны грукалі ў гэтыя калатушкі, своеасабліва перамаўляліся, папярэджвалі пра небяспеку.



*Георгіеўская царква надае ўрачыстасць наваколлю*

– Да 1939 года ў Давыд-Гарадку было больш за 400 абутнікаў. Нашы землякі нават зрабілі боты для прэзідэнта Польшчы Масціцкага, у якіх ён потым хадзіў на паляванне. Ездзілі ў Варшаву, здымалі мерку, а потым у Давыд-Гарадку шылі. Гэта было прызнаннем сапраўднага майстэрства. І не дзіва. На ботах быў толькі адзін шоў, ззаду, ад пят. Таму яны былі надзвычай трывалымі.

Ёсць у музеі і экспанаты, звязаныя з Вялікай Айчыннай вайной. Напрыклад, каскі, як нямецкія, так і нашых салдат. Мікалай Паўлавіч расказаў, што ў верасні 2005 года ў Давыд-Гарадку праводзіліся даследаванні на месцы пахавання нямецкіх салдат. Раскапаныя 73 пахаванні перавезлі пад Бярозу, у брацкую магілу. У адной труне знайшлі артылерыйскую гільзу.

– Ці гэты салдат быў артылерыстам, ці загінуў ад снарада, – выказаў здагадкі кіраўнік музея.

На сценах залы вісяць карціны. Напрыклад, мастака Анатоля Аляксандравіча Концуба, які працуе выкладчыкам у Бабруйску. На яго працах «Шчодрасць» (1982), «Даўным-даўно, далёка-далёка» (2004), «Старыя і дзеці» (1996) – выявы жыхароў Давыд-Гарадка, многія з якіх родзічы мастака. Цікава і арыгінальна створана карціна «Восеньскае святло» (2003). На ёй акрамя фарбы – наклееныя сапраўдныя лісцікі.

Ёсць у зале і здымак першага выпуска гарадскога 4-класнага вучылішча.

– А каля будынка расце «дрэва вольнасці», пасаджанае ў 1921 ці 1922 гадах. Каля гэтага дуба польскія ўлады праводзілі святочныя мерапрыемствы. У наступнай зале ёсць фота тых часоў.

Старыя, ужо крыху пажаўцелыя здымкі пазнаёмілі з колішнім Давыд-Гарадком, яго жыхарамі, іхнімі заняткамі, працай і адпачынкам. Ёсць у зале і стэнды, якія расказваюць пра жыццёвы і творчы шлях знакамітых ураджэнцаў горада: пісьменнікаў Леаніда Дранько-Майсюка, Георгія Марчука, Уладзіміра Глушакова, журналіста Міхася Шэлехава, мастака Анатоля Концуба, урача, які цяпер жыве ў Венгрыі, Міхаіла Шапецькі. У Мікалая Паўлавіча ёсць планы зрабіць такія стэнды пра ўсіх знакамітых гарадчукоў, тых, хто вёў грамадска-актыўнае жыццё. Шмат і іншых задум у кіраўніка народнага музея. Хочацца пажадаць іх абавязковага здзяйснення.

Развітаўшыся з музеем, будынкам 1908 года, а таксама з «дрэвам вольнасці», якое ціха шапацела лістотай і заманліва клікала ў прахалодны цень, я рушыў далей. Нават спякотным днём прыемна прайсціся звілістымі брукаванымі месгачковымі вулачкамі. Прыгожа выглядаў у апошнія дні вясны старажытны Давыд-Гарадок. Сонца зрабіла яркімі ягоныя фарбы-краскі: траву, кветкі, лістоту дрэў, рознакаляровыя будынкі. Незвычайна выглядала і Георгіеўская царква, помнік архітэктуры народнага драўлянага дойлідства першай паловы XVIII стагоддзя. Пафарбаваная ў блакітны колер, яны нібыта злівалася з бязвоблачным небам, надавала асаблівай урачыстасці наваколлю, асаблівай радасці падарожжу.

***Ігар ГРЭЧКА,***
***фота аўтара***





*Першыя перасяленцы ў Прыморскі край Расіі, які асвойваўся нашмат пазней за іншыя рэгіёны, прыбылі ў другой палове XIX ст. – пасля падпісання Айгунскай дамовы (1858 г.) аб размежаванні земляў паміж Расіяй і Кітаем і вяртанні тэрыторый, аддзеленых раней ад Расіі ўрадам манчжурскай Цынскай імперыі па Нерчынскай дамове (1689 г.). З мэтай абароны далёкіх межаў Расійскай дзяржавы і для асваення малазаселеных далёкаўсходніх земляў спачатку пачалося засяленне забайкальскімі казакамі левабярэжжа ракі Амур і правабярэжжа ракі Усуры.*

*У 1856 г. была заснавана Прыморская вобласць, і ўслед за казакамі ў Прыморскую вобласць першымі з 1861 г. сталі прыходзіць рускія сяляне, выхадцы з цэнтральных і паўночных губерняў Расіі. Гэтыя перасяленцы ішлі на Далёкі Усход па два, часам тры гады, здаралася, асядалі ў дарозе – не кожная сям'я магла перанесці без страт гэтакі цяжкі шлях, а таму перасяленне ў край масавым не было. Урадавая дапамога перасяленцам у гэты перыяд амаль не аказвалася. Велічэзныя прасторы заставаліся неасвоенымі, што істотна тармазіла развіццё краю, але адкрыццё ў 1879 г. марскога шляху Адэса–Уладзівасток змяніла сітуацыю.*

# Беларускае сяло Неглюбка
## ў гісторыі Прыморскага края Расіі

***У Расіі, у далёкаўсходнім Прыморскім краі (адміністрацыйны цэнтр Уладзівасток), ёсць два сялы – Іванаўка (Ивановка) і Мікалаеўка (Николаевка) сучаснага Міхайлаўскага раёна, гісторыя ўзнікнення якіх сыходзіць каранямі ў сяло Неглюбка Веткаўскага раёна. Зараз Неглюбка знаходзіцца на тэрыторыі Гомельскай вобласці Рэспублікі Беларусь, а раней, да 1920 г., была найбуйнейшым сялом Суражскага павета Чарнігаўскай губерні.***

125 гадоў таму, 15 жніўня 1882 г., з Адэсы курсам на Уладзівасток выйшаў параход Таварыства Добраахвотнага флоту «Ніжні Ноўгарад», на борце якога былі першыя хадакі, дэлегаваныя сялянамі Чарнігаўскага, Сосніцкага, Мглінскага і Суражскага паветаў Чарнігаўскай губерні ў Паўднёва-Усурыйскі край. Суправаджаў хадакоў загадчык перасялення ў Паўднёва-Усурыйскі край надворны саветнік Фёдар Фёдаравіч Бусэ, мэтай якога было максімальнае палягчэнне плавання для нязвыклых да мора сялян, а па прыбыцці ва Уладзівасток – зрабіць усё магчымае для іх поўнага знаёмства з краем. Напярэдадні адплыцця «Ніжняга Ноўгарада» з Адэсы на імя Ф.Ф. Бусэ прыйшла тэлеграма з Іркуцка, з Галоўнага ўпраўлення Усходняй Сібіры ад генерал-губернатара Усходняй Сібіры генерал-лейтэнанта Зміцера Гаўрылавіча Анучына: «Добрый путь Вам и ходокам. Да благословит Бог начинающееся переселение».

Гэты марскі пераход здзяйсняўся праз Чорнае і Міжземнае моры, Суэцкі канал з прыпынкам у порце Суэц, Чырвонае мора з прыпынкам у г. Адэн, Індыйскі акіян з прыпынкам у порце Каломба, праз моры Ціхага акіяна з прыпынкам у порце Сінгапур і, нарэшце, 24 кастрычніка 1882 г. параход «Ніжні Ноўгарад» кінуў якар у прычала порта Уладзівасток. Рэйс доўжыўся 70 сутак, «ураган, или тайфун, испытанный "Нижним Новгородом" южнее острова Формозы (зараз Тайвань. – Н.Б.), произвел потрясающее впечатление на ходоков, но они скоро успокоились, благодаря Господа Бога за избавление от ниспосланного им испытания» (Сборник «Известия Российского государственного исторического архива Дальнего Востока». Том VIII. С. 66–70. Владивосток, 2004). З данясення Ф.Ф. Бусэ вайсковаму губернатару Прыморскай вобласці Іосіфу Гаўрылавічу Баранаву аб выніках першага досведу перасялення, якое ажыццяўлялася ў рамках дзяржаўнай праграмы: «В течение плавания ходоки хорошо освоились с судовой жизнью и, если хворали легкою простудою или желудком, то быстро выздоравливали при помощи судового врача... По прибытии во Владивосток я, с разрешения Вашего превосходительства, снабдил ходоков в путь, для обозрения края, выдав каждому полушубок, пару сапог, рукавицы, башлык и сукно на штаны и онучи и на всех – 3 котла и 2 топора. Все эти предметы куплены мною в счет канцелярской суммы, частью в портовых складах, с разрешения адмирала, частью у купцов, всего на 194 р. 95 к. Ходоки проживали во Владивостоке в портовых кадровых казармах и 31 октября отправлены на военной шхуне "Ермак" в Цемухэ (зараз пас. Шкотава. – Н.Б.), с тем, чтобы осмотрев окрестности, идти по реке Майхэ (зараз р. Арцёмаўка. – Н.Б.) на реку Лефу (зараз р. Ілістая. – Н.Б.), подняться по его притоку Сахеза (ці р. Лефунца, сучасная назва якой Левая Ілістая. – Н.Б.), затем прибыть в село Никольское (зараз г. Уссурыйск. – Н.Б.). Путь этот был совершен 12 ноября. При свидании моем 22 ноября (з хадакамі – Н.Б.), я объявил им распоряжение о дозволении вернуться на родину тем из них, которые не пожелают оставаться в крае». Трэба дадаць, што прыбылі ў край 10 хадакоў, чацвёра з іх, прадстаўнікі Чарнігаўскага павета, былі вернутыя на радзіму, бо ў краі застацца не пажадалі – не спадабалася. І.Г. Баранаў пісаў, што «...по предположению Буссе отказ объясняется тем, что их ожидания были слишком преувеличены, не находя в действительности того, что рисовала им их фантазия, они остались недовольны краем и его условиями. Не находя возможным и желательным останавливать и влиять на другое решение людей, находящих невыгодным для себя оставаться в крае... я предложил Буссе отправить их весною (1883 г. – Н.Б.) на пароходе в Одессу»...

Усе перамяшчэнні хадакоў у край, з краю – пры жаданні вярнуцца на радзіму, і па самім краі ажыццяўляліся за кошт казны; на маршруце па краі распараджэннем Ф.Ф. Бусэ хадакі заўсёды суправаджаліся мясцовымі даверанымі праваднікамі. Кармавыя грошы хадакам, якія засталіся ў краі і чакалі прыбыцця вясной 1883 г. сваіх сем'яў і землякоў, выдаваліся па 15 рублёў на месяц. Прадугледжана было ўсё.

Адным з тых, каму ўмовы жыцця ў Прыморскай вобласці спадабаліся і хто вырашыў застацца на жыхарства ў Паўднёва-Усурыйскам павеце, быў хадок ад 55 сем'яў сяла Неглюбкі, старажыл і выхадзец з гэтага ж сяла, прапрадзед аўтара артыкула Дарафей Сафронавіч Мельнікаў. Ён выбраў дзве пляцоўкі ў сярэдняй цячэнні ракі Лефу для двух паселішчаў: Іванаўкі – на 28 сем'яў і Мікалаеўкі – на 27 сем'яў (Российский государственный исторический архив). Аўтар сардэчна дзякуе доктару гістарычных навук Юліі Віктараўне Аргудзяевай (Уладзівасток) за дапамогу ва ўстанаўленні месца жыхарства Дарафея Сафронавіча Мельнікава да яго перасялення ў Прыморскую вобласць.

За больш чым сто гадоў марское перасяленне сялян на расійскую ўскраіну абрасло мноствам легенд, часцяком вельмі далёкіх ад ісціны. Але дакументы сведчаць, што край перасяленцаў чакаў, да іх прыбыцця дбайна рыхтаваўся, што ўлады самага высокага ўзроўню трымалі пад пільным кантролем найдрабнейшыя дэталі і перасялення, і ўладкавання новых жыхароў на новым для іх месцы ў нязвыклых умовах, імкнуліся, каб новая радзіма стала маці для іх і іх нашчадкаў.

Яшчэ да прыбыцця сем'яў перасяленцаў вайсковы губернатар Прыморскай вобласці даў распараджэнне нарыхтаваць лес для будаўніцтва будучых хат, пры гэтым нарыхтоўвалі яго ў вярхоўях рэк і сплаўлялі – каб захаваць лясныя леціпчы сялян у недатыкальнасці. Ф.Ф. Бусэ асабіста наведаў выбраныя хадакамі паселішчы для вызначэння месцаў высечкі і ўмоў дастаўкі лесу; вынікі інспекцыі былі дакладзеныя І.Г. Баранаву: «Оказалось, что Мельников выбрал места водворения 55 семейств не в промежутке между станциею Дубининскою и р. Лефу, а непосредственно на берегу последней. Одно селение в 7 верстах выше телеграфной станции Лоренцовой, на 27 дворов, предположено назвать Николаевкою, и место для него выбрано на склоне холмов, на которых растет сосновый и кедровый лес, так что доставка его ограничивается $1^1/_2$ и 2 верстами. Для другой деревни Ивановки, в 28 дворов, выбрано место в 6 верстах ниже станции Лоренцовой, на крутом берегу, над самою р. Лефу. Здесь строевой лес в 6 и 7 верстах в горах, но доставка его гужем удобна при обилии снега в нынешнем году и еще потому, что дорога идет пологим склоном гор без увалов. Оба места не оставляют желать ничего лучшего в экономическом отношении, они расположены на ровной, с легкими возвышениями степи, покрытой толстым слоем чернозема, к тому же на реке и вблизи леса. С другой стороны места выбраны удачно и тем, что располагаясь по пути сообщения на р. Даубихе (зараз р. Арсенеўка. – Н.Б.), дают хорошую опору и надзор за важной для нас дорогой. Относительно вырубки здесь леса, я вошел в соглашение с командиром стрелковой бригады, и 25 января (1883 г. – Н.Б.) команда в 24 человека отправлена на рубку. Что касается вывозки леса на места водворений, то вольным порядком за сметное вознаграждение невозможно выполнить эту работу, почему исправник возложил ее нарядом на крестьян и корейцев ближайших селений». Нарыхтоўкі вяліся «помощью нижних чинов», гэта значыць, салдат стралковай брыгады, камандаваў якой генерал-маёр Гінцэ. Меркавалася плаціць па 10 капеек за бервяно, але Гінцэ паведаміў вайсковаму губернатару, што «нижние чины, желая принести посильную помощь делу обрусения далекого края, просят исполнить вырубку безвозмездно».

Спакойны, разважлівы і прыстойны Дарафей Сафронавіч Мельнікаў зрабіў на Ф.Ф. Бусэ настолькі добрае ўражанне, што загадчык перасялення ў Прыморскую вобласць даручыў яму «ознакомиться с местами на Лефу и вдоль Даубихинской дороги, между Ивановкою и Орловкой, и выбрать два новых места поселения, чтобы двинуть туда безотлагательно ожидаемых переселенцев». Справа ў тым, што «изначально из Суражского уезда предполагалось 85 семейств, а ожидается 122 семьи» і «приращение 37 семейств требует образования еще 2-х деревень».

Вядома, агледзеўшы край, хадакі напісалі лісты дахаты і падзяліліся сваімі ўражаннямі. Зямельная прастора, багатая ягадамі, арэхамі і зверам тайга, паўнаводныя «рыбныя» рэкі – усё гэта прыцягнула суражцаў, якія пакутавалі ад беззямелля, і колькасць ахвочых перасяліцца ў гэтыя багатыя мясціны рэзка павялічылася. Бо ў Прыморскай вобласці, паводле зацверджаных правіл, перасяленцы атрымоўвалі зямельныя надзелы па 100 дзесяцін на сям'ю ў разліку на сельскую грамаду і са свабодай выбару грамадой зямельных участкаў у бясплатнае карыстанне на 20 гадоў з правам наступнага выкупу надзелаў, а таксама і дадатковага набыцця зямлі ва ўласнасць па кошце 3 рублі за 1 дзесяціну (1, 09 га). І да таго ж перасяленцы назаўжды вызваляліся ад падушнага падатку і на 10 гадоў – ад рэкруцкай павіннасці, а па яе заканчэнні – яшчэ на 20 гадоў. (Ю.В. Аргудяева. Крестьянская семья у восточных славян на юге Дальнего Востока России. Москва, 1997). Пры гэтым само перасяленне здзяйснялася за дзяржаўны рахунак. Умова ж адна: перасяленцы «не могут приселяться к существующим селениям, но должны основать отдельно новые, причем группирование в общества каждой новой деревни должно происходить по свободному соглашению между собою, соблюдая лишь правило, чтобы число дворов в обществе не слишком сильно уклонялось от нормального в 25 семей и в общем число селений не было бы меньше десяти. Вместе с тем было объявлено, что желающие могут селиться хуторами (заимками), группироваться в 2 или в 3 двора, одним словом, что число семей в каждом сельбище ограничивается только вышеуказанною предельною цифрою».

***Параходы «Россия» і «Петербург».***
***На такіх нашы суайчыннікі выпраўляліся ў далёкі свет***



*Наталля БУТКОЎСКАЯ,*
*г. Уладзівасток, Расія*

*(Заканчэнне будзе)*

## Чэрвень

**16 – Шлюбскі Аляксандр Ануфрыевіч (1897, Расон. р-н – 1941), літаратуразнавец, этнограф, фалькларыст, бібліёграф – 110 гадоў з дня нараджэння.**

**18 – Барташэвіч Галіна Аляксандраўна (1932, Слуцк), фалькларыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986) – 75 гадоў з дня нараджэння.**

**20 – Ружаны, г.п. (1637) – 370 гадоў з часу атрымання граматы на магдэбургскае права.**

**24 – Грабоўскі Стафан (Стэфан; 1767, Навагрúд. р-н – 1847), военачальнік, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 г., удзельнік руска-турэцкай вайны 1826–1829 гг., генерал дывізіі – 240 гадоў з дня нараджэння.**

**24 – Ходзька (Барэйка) Ян (1777, г.п. Крывічы – 1851), пісьменнік, драматург, грамадскі дзеяч, удзельнік паўстання 1830–1831 гг. – 230 гадоў з дня нараджэння.**

## Бульбародныя краіны

У былым СССР «бульбашамі» называлі нас, беларусаў. Не зусім выпадкова: з даўніх часоў, з эпохі ВКЛ, калі ў ім былі шырокія сувязі з Заходняй Еўропай, бульба трапіла і на нашы землі, палюбілася і хутка стала «другім хлебам» («бульбяныя бунты» былі ў суседняй Расіі).

Нядаўна ААН апублікавала дадзеныя за 1995 і 2005 гады наконт таго, дзе і колькі вырошчваецца бульбы. Месцы ў першай дзесятцы па вытворчасці бульбы (тыс. тон) размеркаваліся так:

| | *1995* | *2005* |
|---|---|---|
| Кітай | 45 984 | 73 777 |
| Расія | 39 909 | 36 400 |
| Індыя | 17 401 | 25 000 |
| Украіна | 14 729 | 19 300 |
| ЗША | 20 122 | 19 111 |
| Германія | 10 888 | 11 158 |
| Польшча | 24 891 | 11 009 |
| Беларусь | ***9 504*** | ***8 600*** |
| Нідэрланды | 7 340 | 6 836 |
| Францыя | 5 839 | 6 347 |

Улічваючы колькасць насельнікаў, Беларусь займае першае месца ў свеце па спажыванні бульбы на аднаго чалавека. Значыць, усё ж мы – бульбашы! Але гэта значыць і наступнае: шмат ужываючы бульбянога, мы менш ласуемся іншым, не менш карысным, чым бульба.



## Крыжаванка

***Уздоўж***

**3.** Тканіна ярка-чырвонага колеру, з якой шыюцца сцягі. **8.** Прылада для ўтварэння электрычных разрадаў у руха-віках. **9.** Уладальнік маёмасці. **10.** Псеўданім Шмуэля Чарнага з Дукоры (1883–1955), які ў ЗША стаў вядомым крытыкам літаратуры на ідышы. **11.** Украінскі народны шчыпковы інструмент. **12.** Выдатны расійскі акцёр канца XIX – пачатку XX ст. **13.** Грудзі (уст.). **14.** Плоская пасудзіна для вады. **17.** Сінонім кальяна. **20.** Расліна з пышнымі чырвонымі кветкамі. **22.** Паселішча на Беласточчыне, дзе жыве і працуе пісьменнік Сакрат Яновіч. **23.** Так называюць кіраўнікоў «традыцыйных» хрысціянскіх канфесій. **25.** Лейзер ... – знакаміты яўрэйскі мастак у БССР, аўтар серыі «Мінскае гета». Яго работы захоўваюцца ў Дрэздэнскай галерэі. **28.** Сярэднявечная дзяржава ў арабаў. **31.** Хваёвы куст. **33.** Прадстаўнік індзейскага народа ў Мексіцы, знішчанага ў XVI ст. іспанскімі заваёўнікамі. **34.** Уладзімір Караткевіч як знаўца прыгатавання ежы. **35.** Аб'яднанне беларускіх літаратараў у 1920-х, куды ўваходзілі А. Бабарэка, З. Бядуля і інш. **36.** ... Друцка-Любецкіх – славутасць Шчучына (цяпер рэстаўруецца). **37.** Штучны шоўк. **38.** Чалавек з пункту гледжання сацыялогіі. **39.** Цыбатая птушка, граза жабак.

***Упоперак***

**1.** «Зімовы» знак задыяка. **2.** Старажытная вёска на Лунінеччыне; нядаўна ёй была прысвечана кніжка (пра яе пісалася ў «КГ». – **Рэд.**). **3.** Прадмет мяккай мэблі. **4.** Высокая шапка, якую некалі насілі сяляне. **5.** Кампазітар, аўтар першых у савецкай Беларусі опер і сімфанічных твораў. **6.** Пабытавая назва прыватызацыйнага чэка ў 1990-я гг. **7.** ... Грамыка – педагог і пісьменнік, ураджэнец вёскі Чорнае на Гомельшчыне. Аўтар беларускамоўных падручнікаў па геаграфіі і мінералогіі. Быў рэпрэсаваны. **15.** Фінскі сатырык, аўтар «Чацвёртага пазванка» і інш. **16.** Аўтабіяграфічны персанаж аповесці Гірша Рэлеса «Над ракой Ульянкай» (пра Чашнікі 1920-х гг.). **18.** Адмысловая вайсковая група. **19.** Алесь ... з Капыля – матрос, паэт. Першы верш апублікаваў у «Нашай Ніве» 100 гадоў таму. **20.** Сельская грамада, якую намагаўся разбурыць Пётр Сталыпін. **21.** Прозвішча славутых англійскіх акцёраў XVIII–XIX стст. **24.** Былы рэктар БДУ, экс-кандыдат у прэзідэнты РБ. **26.** Дурань, боўдзіла (разм.). **27.** Тое, што і коннік. **29.** Прывід, здань. **30.** Сучасны беларускі рок-гурт. **31.** Край у Расіі, дзе летась прайшоў матч на першынство свету па шашках-64 з удзелам беларуса Андрэя Валюка. **32.** Вядомы расійскі сацыёлаг, чый цэнтр ладзіў апытанні і ў Беларусі.

***Склаў Вольф РУБІНЧЫК, г. Мінск***



### Народ загадаў

*Сярод хаты ляжыць Сямён барадаты.*

**Чорнае хварасціна па хаце свішча.**

*Скроб, скроб ды пад прыпечак лёг.*

**Нажом рэзалі, дротам вязалі, а ён не плача – па падлозе скача.**

*Курыца старэец, а кіпці вастрэюць.*

**Патыкаўся, пасмыкаўся і па хаце пайшоў.**

*У зялёным кабаточку стаіць паненка ў куточку.*

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ГАЛІЦКА-ВАЛЫНСКІ ЛЕТАПІС** – помнік старaславянскай гістарыяграфіі, мовы і літаратуры, што збярогся ў Іпацьеўскім, Хлебнікаўскім і іншых спісах летапіснага зводу канца XIII ст. Складзены ў Галіцка-Валынскай Русі, асвятляе падзеі ў ёй і ў суседніх княствах 1201–1292 гг. Апошнія запісы датычныя гісторыі Пінскай зямлі, што дае падставу даследчыкам старажытных летапісаў (В. Чамярыцкі) меркаваць: пратограф (першы рукапіс, які лёг у аснову пазнейшых спісаў, рэдакцый) мог узнікнуць у Пінску. Спачатку быў напісаны ў прагматычнай форме, без дат, пасля тэкст быў падзелены на пагадовыя часткі – Галіцкую і Валынскую. Першая частка нагадвае празаічна-дакументальны твор, мае свецкі характар і багатыя вобразна-выяўленчыя сродкі. У цэнтры ўвагі галіцка-валынскі князь і супернік Міндоўга Даніла Галіцкі, які пададзены ў прыхарошаным, рыцарскім духу. У 2-й частцы пераважна расказ пра Валынскую зямлю 2-й пал. XIII ст.

У Галіцка-Валынскім летапісе – каштоўныя звесткі пра беларускую гісторыю, у прыватнасці пра Брэст і ўтварэнне ВКЛ з цэнтрам у сённяшнім Навагрудку, пра жыццёвы, дзяржаўны шлях Міндоўга і яго сына Войшалка, з якімі неаднаразова ваявалі галіцка-валынскія князі, намагаючыся не дапусціць утварэння і амацавання ВКЛ. Асноўныя сюжэты названага летапісу сталі літаратурным узорам для аўтараў «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», для Хронікі Быхаўца, а таксама грунтам для навуковых прац многіх пакаленняў беларускіх гісторыкаў. Многія факты з Галіцка-Валынскага летапісу, у т.л. і для палемікі з імі, выкарыстаны і Міколам Ермаловічам у знакамітым гістарычна-папулярным даследаванні «Старажытная Беларусь».



*Вясельная галовачка (канец XIX ст., Столінскі раён)*

**ГАЛОВАЧКА** (галава) – старажытны галаўны ўбор замужніх жанчын. Мела распаўсюджанне ў давыд-гарадоцка-тураўскім строі. Складалася з цвёрдага каркаса-асновы ў выглядзе шапкі без верху, надлобная частка яе пераходзіла ў трапецападобны грэбень (вышыня 8–15, шырыня 10–17 см), спецыяльнага чапца, рабушкі (пасак з тых жа матэрыялаў, якімі ахінаўся каркас), сярпанкі (намітка з тонкага, як марля, палатна даўжынёй 3,5–5 м, шырынёй 50–60 см), якая, складзеная ў некалькі столак, абвівала грэбень, праходзіла пад падбародкам і свабоднымі канцамі драпіравалася на спіне. Часта галовачка дапаўнялася ўзорыстай, сакавітай па каларыце кашміравай з махрамі хусткай (складзенай па дыяганалі, прапускалася пад падбародкам і завязвалася на цемі). Святочную галовачку ўхарошвалі вышыўкай тонкім шоўкам або ніткамі розных колераў, нашыўкамі тасьмы. Асаблівым майстэрствам ў вырабе галовачак у XIX ст. вызначаліся жанчыны з Турава.

**«ГАЛУБЕЦ»** – беларускі народны танец, які выконвалі парамі з ударам абцаса аб абцас з падскокам і ў жвавым тэмпе.

**ГАЛЬШАНСКАЯ КАФЛЯ** – вырабы XV–XIX стст. з мясцовай гліны, што былі адшуканыя пры археалагічных раскопках на тэрыторыі Гальшанскага палаца і ў цэнтры Гальшан Ашмянскага раёна. Да XV ст. належаць так званыя гаршковыя кафлі з квадратным вусцем. Кафлі XVI ст. маюць шырокае круглае вусце. З 2-й пал. XVI ст. выраблялі кафлі з аздобленай вонкавай пласцінай і каробкападобнай румпай. Кафлі XVII ст. дэкарыраваны геральдычным (звязаным з родам Сапегаў), раслінным (перавітыя лісце, галінкі, кветкі), геаметрычным (касая клетка з зорачкамі) арнаментамі, пакрыты белай, карычневай, жоўтай або зялёнай празрыстай глазурамі. Вырабы XVI–XVII стст. маюць рамку па краі вонкавай пласціны. Кафлі XVIII ст. характэрны спрошчаны малюнак, адсутнасць рамкі. Вырабы XIX ст. пакрываліся зялёнай і белай палівай.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26, 334 61 62. Тэл./факс 334-42-03 E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас. Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 31.05.2007. Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14). Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 675. Тыраж 1400 асобнікаў.